Кошт паштовай перасылкі аплачаны агулам.

Цана асобнага нумару 250.000 м.



# Голас Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **3.000000 м.**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр. 250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 16. Вільня, Пятніца, 4-га красавіка 1924 г. Год I.

## Найважнейшы вывад.

Уся будучыня Беларускага народу, усе надзеі на зьдзейсьненьне яго нацыянальных ідэалаў апіраюцца не на голым толькі факце істнаваньня асобнае беларускае нацыянальнае адзінкі, а на здольнасьці гэтае адзінкі да самаўсьведамленьня, на захаванай у ёй творчай сіле.

Ворагі нашага народу, якія цікуюць на яго пагібель, яшчэ і сяньня асьмеліваюцца высказываць сумляваньне ў тым, ці наагул можна глядзець на беларусаў, як на асобную нацыю. Але гэта робяць выключна тыя нашы злоснікі, якім злосьць на жывучасьць нашага народу не дае магчымасьці бачыць таго, што ёсьць.

А ёсьць тое, аб чым першыя барацьбіты за беларускую справу дваццаць гадоў таму назад маглі толькі нясьмела лятуцець. Цяпер ужо для кожнага ясна, што беларуская маса нацыянальна збудзілася, што яна выявіла сваю цьвёрдую волю жыць самастойным нацыянальным жыцьцём, і гэтае волі нішто ня здолее зламаць.

Ня будзем паўтарацца аб тым, што ў Заходняй Беларусі наша нацыянальная праца апынулася ў найгоршых варунках. Але-ж і тут, калі акуратна сачыць хаця-бы за беларускай прэсай, убачым самыя яркія праявы нацыянальнае сьвядомасьці нашае народнае масы, праявы не нязломнае волі абараніць і захаваць сваю нацыянальную душу і ўсе яе праявы. Вазьмеце хаця-бы газэтныя карэспандэнцыі. Якая характэрная аповесьць, прыкладам, карэспандэнта з Дунілаўскага павету, каторы так проста, але і так красамоўна апавядае, як вяскоўцы-беларусы змагаюцца за сваю школу ў роднай мове. Прасілі аб урадовую беларускую школу,—ім двойчы адмовілі. Прасілі аб дазвол на адкрыцьце прыватнае школы,—не далі. Адчынілі яе ўсё-ж такі сваімі сіламі,—ім школу зачынілі. І так ня толькі дзеецца ў нейкіх Казлох, але скрозь па ўсіх беларускіх паветах. А цэлыя кіпы вясковых прыгавораў аб роднай школе, сабраныя нашым пасольскім клюбам? А самыя соймавыя выбары, перамога беларусаў на іх— ня гледзячы на нячуваныя перашкоды і перасьледаваньні?!...

Людзі, якія ня хочуць верыць у жывую творчую сілу Беларускага народу і ў ягоную здольнасьць да самастойнага нацыянальнага жыцьця,—не здавальняюцца гэтымі доказамі. Яны кажуць, што тут, у Заходняй Беларусі, жыве толькі малая частка беларусаў, і іх прабуджэньне не разьвязуе беларускага пытаньня наагул. Гэтыя людзі звычайна паказуюць на Усход, дзе жыве большасьць нашага народу, і даводзяць, што тамака ніякага руху—апрача шасьцёх паветаў Меншчыны (Радавае Беларусь у старых межах) — няма, што ў усходніх паветах усю беларускасьць зьнішчыла маскоўшчына, што беларуская нацыянальная культура ня здолее тамака перамагчы ўплывы расейскае.

Аднак, і гэты закід, які, здавалася, меў пад сабой запраўды нейкі грунт, цяпер аканчальна адпадае. Праўда, пад той час, калі ў Менску, як дзяржаўным цэнтры Радавае Беларусі, кіпела беларускае нацыянальнае жыцьцё, гуртаваліся і ўзгадоўваліся сьвядомыя беларускія сілы,—на ўсходня-беларускіх землях, што цяпер далучаны да Радавае Беларусі, было поўнае і непадзельнае панаваньне маскоўскае адміністрацыі. Апошняя дужа няпрыхільна глядзела на беларускі рух. Нават у менскіх беларускіх газэтах адзначалася гэтая няпрыхільнасьць. І ўсё-ж такі, ня гледзячы на поўную адсутнасьць культурных беларускіх дзеячоў, ня гледзячы на „маскоўскі курс" адміністрацыі, у Гомельшчыне, Вітабшчыне, Смаленшчыне бачым як-быццам самазараджэньне беларускае сьвядомасьці ў сялянскіх масах, сярод вясковае моладзі і нават сярод мястовых работнікаў. То там, то сям, яшчэ задоўга да аб'яднаньня з менскім цэнтрам, бачым закладзіны беларускіх гурткоў, беларускіх школ. Думка народу працуе ў нацыянальным кірунку: дзеля яе прабуджэньня хватае факту істнаваньня побач Радавае Беларускае Рэспублікі. І калі гэная Рэспубліка пашырылася на Усход,—яна знайшла тамака дужа добры грунт дзеля пасеву беларускае нацыянальнае і дзяржаўнае ідэалёгіі. Вестку аб аб'яднаньні сустракалі з энтузіязмам ня толькі вяскоўцы, але і работнікі. Прамоўцаў і лектароў, якіх Менск слаў у новадалучаныя да яго паветы, даслоўна насілі на руках. І ўсё гэта—пры вельмі халодных адносінах адміністрацыі, пераважна заражанай духам маскоўскага нацыяналізму.

Вось, што дзень за днём прыносілі нам весткі з Усходу, якімі мы дзяліліся з нашымі чытачамі. Абраз таго, што тамака дзеецца, ужо даволі поўны, і мы з поўным правам можам зрабіць першы і найважнейшы вывад: што і *нашы далёкія усходнія узьмежкі нацыянальна прабудзіліся*, што *адзіны беларускі дух запанаваў па усей нашай Бацькаўшчыне—ад краю да краю*, што *воля да самастойнага нацыянальнага жыцьця ў беларускіх сялян і работнікаў Усходу здалела перамагчы сталетнія магутныя ўплывы маскоўскае культуры* і павяла нашы народныя масы па дарозе нацыянальнае беларускае культурнае творчасьці, — *адзінае, супольнае для Усходу і для Захаду.*

## Панскае аздараўленьне Крэсаў.

Пашырэньне Ўсходняй Беларусі зрабіла вялікае ўражаньне на польскія ўплывовыя сфэры і выклікала вялікі непакой, аб чым яскрава сьведчаць галасы польскай прэсы і выдатных палітычных дзеячоў. Дасюлешняя польская палітыка на „Усходніх Крэсах", якія, як прызнае нават эндэцкі пасол Бэрэзоўскі, ахопліваюць 55 % тэрыторыі Польшчы і 35 % яе насяленьня, выклікала вялізарнае незадаваленьне беларускага і украінскага насяленьня. Гэтае нездавольства дасягае апошніх межаў, і факт істнаваньня незалежнай Беларускай Радавай Рэспублікі, ахопліваючай бадай усе усходня-беларускія абшары, можа яшчэ больш абвастрыць яго, бо адно простае параўнаньне палажэньня беларусаў на Ўсходзе і Захадзе гаворыць больш, чым якая-б там ні была агітацыя, аб якой так любяць крычаць польскія газэты ўсіх кірункаў.

Ясна, што трэба шукаць нейкага выхаду з ствары́ўшагася—можна сьмела сказаць—грознага палажэньня на „Крэсах". Цэнтральны ўрад склікае спэцыяльныя нарады, на якія запрашае „рэчазнаўцаў" палажэньня на крэсах; шмат гавораць аб аздараўленьні адміністрацыі і наагул стасункаў на тых-жа Крэсах, але далей гэтага ніхто ня йдзе. Польскія абшарнікі і капіталісты, польскія чарнасоценныя партыі, якія маюць большасьць у Сойме і рашучы ўплыў на ўрадовую палітыку, сьцьвярджаючы факт ненармальнасьці жыцьця на беларускіх і украінскіх абшарах, ня бачаць ніякага выхаду, як толькі павялічэньне рэпрэсіяў і ўмацаваньне польскага элемэнту для большай удачы спольшчваньня краю. Гэта таксама адзначыў і эндэцкі пасол Бэрэзоўскі, які тут, у Вільні, прачытаў спэцыяльны даклад на гэтую тэму.

Па думцы Бэрэзоўскага, пытаньне аб асыміляцыі беларускага і ўкраінскага насяленьня зьяўляецца найважнейшым заданьнем польскай палітыкі, ад дадатняга разьвязаньня якога залежыць факт істнаваньня сучаснай Польшчы. Дзеля гэтага трэба праводзіць яе ў жыцьцё ўсімі спосабамі, а перадусім праз школу, царкву і арганізацыю ўлады на Крэсах. Усе публічныя школы павінны быць выключна польскімі; праваслаўную царкву трэба ўзяць пад апеку дзяржавы і зрабіць яе польскай. Як бачым, польская палітыка і дасюль ішла гэтым шляхам, трэба спадзявацца, што цяпер гэта пryме яшчэ больш выразныя формы. Рэпрэсіі процiў беларускіх школаў яшчэ больш павялічацца; што датыча царквы, якая заўсёды зьяўлялася сьляпою прыладай у руках ураду, дык польскі ўрад дужа лёгка яе выкарыстае і ня знойдзе належнага адпору з боку праваслаўнага духавенства, а асабліва яго вышэйшых кіраўнікоў. Чуткі аб пераводзе Віленскай Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі ў Холм і ўвядзеньне выкладовай польскай мовы толькі падцьвярджаюць гэтае.

Найбольш цікавым зьяўляецца, аднак, разьвязаньне пытаньня аб арганізацыі адміністрацыі на Крэсах. Тут пасол Бэрэзоўскі лічыць патрэбным зьмену канстытуцыі, бо точнае выпаўненьне цяперашней канстытуцыі можа давясьці да распаду Польскай дзяржавы. У якім кірунку трэба зьмяніць канстытуцыю, гэта мы таксама добра ведаем: пазбаўленьне выбарных правоў шырокіх слаёў працоўнага насяленьня і наданьне прывілеяў польскім абшарнікам і асаднікам. Але гэтыя зьмены не павінны зачапіць толькі крэсавыя абшары, але і рэшту Польшчы, бо, бачыце, пан Бэрэзоўскі стаіць за „ўніфікацыю", за тое, каб усе абшары сучаснай Польшчы нічым ня розьніліся адна ад аднэй і што для гэтай высокай мэты нават чыста—польскія „высока культурныя" абшары павінны прынясьці ў ахвяру свае правы.

Вось тут і вылазіць шыла з эндэцкага мяшка. Польскія абшарнікі і капіталісты хочуць даказаць польскаму селяніну і работніку, што яны павінны прынясьці ў ахвяру свае палітычныя правы ўсё для тэй-жа высокай мэты—„dobra ojczyzny", істнаваньню якой пагражаюць далучаныя да яе аружнай сілай нацыянальныя меншасьці. Пазбаўленьне палітычных правоў працоўнага народу буржуазія заўсёды тлумачыць патрэбай ахвяраў на „dobro ojczyzny". 10-гадзінны дзень працы і нізкая плата, і дарагоўля прадметаў першай патрэбы, і шмат іншых рэчаў, усё гэта знаходзіць апраўданьне ў гэтай вялікай мэце; але самі абшарнікі і капіталісты ніколі не прынясуць ні малейшай ахвяры для гэтага, бо dobro ojczyzny гэта іх dobro.

Вось якая эндэцкая праграма для аздараўленьня стасункаў на крэсах.

Ці паздаровіцца толькі панам ад гэткага аздараўленьня?

**Кумельган.**

## Палітычныя падзеі.

### Цыркуляр Солтана.

Перад выхадам у адстаўку б. мін. унутран. спраў, п. Солтан выдаў цыркуляр да ўсіх ваяводаў, каб моцна забаранялі сваей паліцыі і вастрожнай адміністрацыі біць і катаваць арыштаваных пры „dochodzeniach" і адбываньні кары.

Добра, што хаця прызналіся нарэшце!. — Бо чакаць напраўду паправы, калі, як сьцьвярджае „Kur. Polski", нават вышэйшыя прадстаўнікі паліцыі даводзяць, што „бяз пытак ня можна карысна для справы правясьці ніводнага папярэдняга сьледзтва"—спадзявацца вынікаў гэтага „шляхотнага" цыркуляру адстаўнога ўжо міністра няма чаго... у кожным разе на Крэсах усё застанецца пастарому... Бо сам-жа п. Солтан піша ў цыркуляры, што паліцыя прадаўжае біць, „ня гледзячы на неаднаразовыя становчыя забароны"...

### Абшарнікі дамагаюцца павялічэньня дня працы.

У Пазнані толькі што адбыўся зьезд абшарнікаў, якія прынялі рэзалюцыю аб тым, каб у законадаўчым

# Навакола пашырэньня Радавае Беларусі

## Магілёўшчына аб далучэньні да Б. С. С. Р.

### Рэзалюцыя Магілёўскай партыйнай арганізацыі.

Магілёўская партыйная арганізацыя даўно была моцна зацікаўлена пытаньнем аб далучэньні Магілёўскага павету да Беларусі.

Цяпер здаволеная рэальным ажыцьцяўленьнем далучэньня партыйная арганізацыя лічыць гэты акт доказам правільнае палітыкі партыі.

У зьвязку з гэтымі бліжэйшымі практычнымі заданьнямі сход лічыць:

1) Зрастаньне партыйных арганізацыяў усіх раёнаў Беларусі дзеля бязбольнага і пляновага пераходу да новых абставінаў працы.

2) Захаваньне і нават падвышэньне тэмпу працы, ні ў якім выпадку не дапускаючы ніякіх перабояў.

3) Вывучэньне нацыянальнай палітыкі партыі, і замацаваньне зьвязку з сялянствам.

З асабліваю ўвагаю заслухаўшы даклад аб пашырэньні Беларусі, шырокая рабочая канфэрэнцыя горача вітае гэты справядлівы акт.

Братэрскае супрацоўнічаньне рабочых і сялян усіх нацыяў ёсьць парукаю канчатковай перамогі рэвалюцыі. Значным крокам на гэтым шляху зьяўляецца далучэньне да Беларусі Магілёўшчыны, арганічна зьвязанай з ёю нацыянальнымі, натуральна-гістарычнымі і эканамічнымі асаблівасьцямі.

Рабочая канфэрэнцыя верыць, што Беларускі ўрад ня будзе камандаваць нова далучанай да Беларусі тэрыторыяй, але ўважліва і чула прыслухоўвацца да патрэбаў рабочага і селяніна Магілёўшчыны.

Канфэрэнцыя ведае, што Беларусь небагата, разбурана вайною і голадам і, бяручы гэта пад увагу, заяўляе: **рабочы Магілёва ўсімі сіламі дапаможа Беларускай рэспубліцы расьцьвісьці і замацавацца.**

### Голас аршанскіх рабочых.

Праслухаўшы даклады Жылуновіча і Гэтнэра аб гісторыі разьвіцьця беларускага пытаньня і значэньні пашырэньня Беларусі і аб задачах, якія стаяць перад Беларусьсю, Аршанскае агульна-гарадзкое сабраньне членаў і кандыдатаў Р.К.П. разам з членамі прафсаюзаў вітае пастанову II-га Агульнасаюзнага Зьезду Саветаў, якою пашыраецца Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка і пашыраюцца яе граніцы на ўсе мяйсцовасьці Р.С.Ф.С.Р., у якіх перамагае беларускае насяленьне. Сабраньне лічыць, што гэтае пашырэньне будзе мець вагромністае значэньне ў справе разьвіцьця беларускага працоўнага народу і яго культурнага росквіту, уздыму палітычнай і эканамічнай моцы і значэньня беларускай Рэспублікі. Сабраньне знаходзіць, што ў бягучы час перад усёй Беларускай арганізацыяй, як і перад усімі сьвядомымі арганізаванымі працаўнікамі, стаіць вельмі адпаведная праца ў справе непарушна правясьці пашырэньне Беларусі, устанавіць яе новы адміністрацыйны падзел, зрасьціць і прыстасаваць да новых умоў партыйны, савецкі, прафэсыянальны і гаспадарчы апарат.

Сабраньне выказвае гатоўнасьць прылажыць усе патугі дзеля ажыцьцяўленьня ўсіх перадстаячых заданьняў і выказвае ўверанасьць, што працоўныя гушчы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі справяцца з усімі задачамі і што, дзякуючы пашырэньню, Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка пойдзе хуткім крокам уперад па шляху яе культурнага і эканамічнага разьвіцьця і пакажа ўсяму сьвету розьніцу ў вырашэньні нацыянальнага пытаньня працаўнікамі С.С.С.Р. і буржуйным сьветам.

Няхай жыве пашыраная Беларусь!

Да пашырэньня 45.969 кв. вёрст і 1.536.944 чалавек.




Пасьля пашырэньня 99.220 кв. вёрст і 3.859.000 чалавек.

Карта пашыранай Радавай Беларусі.

## Беларускі рух у Магілёўшчыне.

Куды ні сунешся, усюды чуеш гутаркі аб Беларусі. Нават і сяляне пры ўсялякім выпадку пытаюцца аб далучэньні да Беларусі. Спрэчкі аб Беларусі ня спыняюцца, і гэта сьведчыць аб тым, што гэтае пытаньне сваечасовае і жыцьцёвае.

Ня гледзячы на ўсе гэта, адміністрацыя ніколькі не ўзварушылася, як быццам нічога і ня здарылася вялікага, значнага. Яна толькі падцьвярджае факт далучэньня, ня тлумачачы прычын яго. Яскравым прыкладам гэтай халоднасьці зьяўляецца ўжо тое, што хоць паветы далучаны прынцыпова яшчэ два месяцы таму назад—але і дагэтуль нават у сямёхгодках не выкладаецца беларуская мова і ня рыхтуюцца да яе выкладаньня. Чакаюць указкі.

Адносна Краснапольля нам вядома больш. Тут ёсьць сур'ёзная праца па пашырэньню беларускай культуры. Істнуюць два гурткі: адзін—вучнёўскі з 60 чал., другі — настаўніцкі з 14 чал. Дагэтуль паставілі 4 спэктаклі на белар. мове.

Вучнёўскі гурток працуе добра — вучыцца пісаць, чытаць, пець і прыймае ўдзел у спэктаклях. Трэба падкрэсьліць яшчэ і тое, што ў Краснапольскай воласьці ў сучасны момант тры настаўнікі навукова працуюць над беларускай мовай. Яны маюць беларускі слоўнік Насовіча, творы Карскага, падручнікі, часопісі і прыгожую літэратуру.

А адзін з іх ад самай восені працаваў над пісаньнем п'есы на белар. мове. Цяпер яна закончана і праз месяц будзе ў Краснапольлі пастаўлена. П'еса названа—„Як згінула апраметная"—ў 5 актах з 30 дзеячымі асобамі. Надоечы ўсё Краснапольскае настаўніцтва на прыватным сходзе слухала гэту п'есу. Ня будучы крытыкам, усё такі адразу зразумееш, што гэта п'еса ёсьць твор рэвалюцыйнай сымболікі і сваей мэтай мае намаляваць у сымбалічных формах гібель і адраджэньне Беларусі. Па зьместу, штылю і чыста магілёўскай народнай мове п'еса вельмі цікавая.

Цяпер тут гавораць яшчэ аб раёнаваньні Беларусі і шмат гутарак аб праекце раёнаваньня, па якому Беларусь дзеліцца на кантоны. Гэта прызнаюць правідловым, лічучы дарэмным істнаваньне губэрскіх цэнтраў.

**А. Мрый.**

## Нацыянальная сьвядомасьць Беларускага сялянства.

### За далучэньне да Сав. Беларусі.

25-га лютага ў Первамайскай воласьці, Полацкага павету адбылася шырокая сялянская канфэрэнцыя.

Асабліва зацікавіў сялян даклад аб далучэньні Віцебшчыны да Беларусі. Барадатыя старцы—полацкія беларусы ўзрадаваліся гэтай вестцы.

— Цяпер пойдзе праца. Савецкая ўлада кожную нацыю вызваляе.

Шырокі валасны сялянскі зьезд вітае пастанову ўраду аб далучэньні Віцебшчыны да Савецкай Беларусі.

### Беларусь зацікавіла.

(*Халамерская вол., Невельск. пав., Віцебск. губ.*).

Даведаўшыся, што наша вёска адходзіць да БССР, нашы жыхары вельмі пацягнуліся да газэты „Савецкая Беларусь".

У воласьці атрымліваюцца толькі два экзэмпляры гэтай газэты, якую хапаюць туды і сюды. Сочаць беларускіх кніжак, ды іх нідзе няма. Кожны цікавіцца беларускай мовай. У валвыканкоме часта чутны такія гутаркі: „А ты ўжо цяпер Язэп, а я Янка" і інш. На вёсцы толькі і гутаркі, што пра Беларусь.

**Ж—евіч.**

### Настроі сялянства ў зьвязку з далучэньнем да Беларусі.

*Рагачоўскі павет.*

У другой палове лютага ўва ўсіх валасьцёх павету адбыліся шырокія беспартыйныя канфэрэнцыі, дзе побач з другімі пытаньнямі дэтальна асьвятлялася пытаньне аб далучэньні Рагачоўскага павету да Беларусі. Падаўляючая большасьць сялянства горача вітала пастанову аб пашырэньні БССР, радуючыся стварэньню вялікай Беларусі і далучэньню да яе і Рагачоўскага павету. Ува ўсіх пастановах канфэрэнцыяў гаворыцца, што гэта пастанова камуністычнай партыі і Савецкай улады зусім адпавядае жаданьням і імкненьням беларускага жыхарства Рагачоўшчыны.

**М. Маркевіч.**

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## ХРОНІКА.

### Канфіскаты.

**31-га сакавіка г. г. па загаду Камісара Ураду гор. Вільні канфіскаваны № 14 „Голасу Беларуса" за артыкул „Незалежнасьць і залежнасьць", а 2-га красавіка сканфіскаваны № 15 „Голасу Беларуса".**

**Падзяка.** Камітэт помачы ахвярам вайны выказвае шчырую падзяку сялянам вёсак: Зарэчча, Манеўшчына, Дзерацінцы, Вароцішча, Падлесьсе, Новая Вёска, Круты Бераг, Краснагоркі, Астроўкі, Яблаunion-шчына, Просьце, Стаўпішча, Янчыцы, Новая Лысіца, Вялікая Лысіца, Забалоцьце, Канюшчына і інш., Гарадзейскай гміны, Нясьвіскага павету за ахвяры, сабраныя для сіротаў Беларускага прытулку ў Вільні.

**Мітынг.** 23 сакавіка, у мяст. Докшыцы пасол Мятла зрабіў справаздаўчы мітынг. На мітынгу сабрана ахвяраў на прэсовы фонд 15.850.000 м. п.

**За Балавеж паважна бяруцца!** Як паведамляе віленскае „Słowo", пасол Каленкевіч (польскі абшарнік) заявіў на сабраньні ў сельска-гаспадарскім таварыстве, што міністэрства чыгунак зьменшыла плату за правоз дзерава на адлежнасьць 600 вёрст выключна з увагі на праект вырубаньня Белавежскае пушчы. Як бачым, гэтая слаўная пушча засуджана Польшчай на поўнае зьнішчэньне.

## Весткі з вёскі.

### Не даюць школы ў роднай мове.

**(в. Казлы, Парпліскай вол., Дунілав. пав.)**

У лістападзе 1922 году грамадзяне нашай вёскі два разы падавалі Школьнаму Інспэктару прыгавор, які падпісаны быў 60 асобамі, аб адчыненьні ў нас беларускай школы. Дзяцей у школьным веку налічваецца ў нашай вёсцы да 60. Але школы дасюль ня маем. На пісьме інспэктар даў адказ, што вучыцель павінен скончыць 7 клясаў гімназіі, а высланай да яго дэлегацыі адказаў, што ня можа быць нават гутаркі аб адчыненьні беларускай школы.

Каб як-небудзь даць асьвету сваім дзецям, нашы сяляне на свой кошт залажылі прыватную школу і паведамілі аб гэтым інспэктара, але інспэктар прыказаў зачыніць школу, што паліцыя і выпаўніла.

Падавалі прыгавор і ў гэтым годзе, але вынік той самы. Кругом нас усе вёскі жадаюць мець школы ў сваёй роднай мове, але школьныя ўлады адчыняюць толькі польскія, у якія дзеці нашы ня ходзяць, бо ня могуць вучыцца ў незразумелай для іх мове.

**Пятрук.**

**В. Вялікая Кракотка**, Слонімскага павету.

Кожны з нас дабра яшчэ памятае восень 1922 году, калі па нашаму краю, празванаму „ўсходнімі крэсамі“ (бо мусіць паном вельмі не падабаецца назоў „Беларусь“) разсыпаліся агітатары розных партыяў ад левых да правых уключна. Кожны з іх раскідаў соткі, а мо' й тысячы паперкаў на нашай роднай мове. Абяцанкам ня было конца. Кожны, як дзяцей, гладзіў па галоўцы. Тады й мы былі людзьмі, тады і ў нас была свая мова. І аддаючы свае галасы, мы спадзяваліся, што і ў нас ўсё будзе, як у добрых людзей—што хаты нашы адбудуюцца, надзеляць зямелькай, дзеткі пачуюць навуку ў роднай мове, а ў „urzędach“ з намі пачнуць гаварыць, як з людзьмі.

Але прайшоў год, мінуў другі, а паляпшэньня жыцьця мы ня бачым, хутчэй наадварот. Апошні наш лясок—садок ужо ў кішані спэкулянта. Ніхто з сялян, якія бадай усе былі ў бежанцах, а вярнуўшыся знайшлі заместа роднай хаты, толькі заросшы быльлём двор, не атрымаў ані воднае хвойкі, а толькі плацім за гнілое гальлё штрафы. І зямлі не далі—за то маем асаднікаў. Падаткам няма канца — то „асаднічы“, то „засаднічы“, то „жондовы“, то „павятовы“, — хвароба іх ведае—усіх і не пералічыш! Ня лепш і з страхоўкаю: леташняю вясною ўзялі, і ў восень ўзялі, а сёньня зноў бяруць, але ўжо ў франках. Цяпер цягнуць яшчэ нейкую ссыпку за тры гады, калі мы яшчэ былі ў Расеі, у бежанцах... Самім няма чаго есьці, бо леташні год, каб не крапіва, дык памёрлі-б з голаду, дый гэты год бачым зерня, толькі, як малоцім, а ссыпку трэба даваць. Плацім падаткі і за коні, і за каровы, хоць бяз харчоў яны ледзь ногі валочаць. Падыходзіць пара араць, а тут трэба прасіць людзей, каб паднялі на ногі, бо сама жывёла ня ўстае.

Дзетак вучыцялі штрафуюць за кожнае беларускае слова. Напрыклад, перад Калядамі ў вёсцы Сялявічах, Міжаўскай гміны, Слонімскага павету, была аштрафавана вучыцелькай Шостакувнай дзесяцігадовая вучаніца, дачка Сьцяпана Саркевіча, за два словы, якія яна сказала пабеларуску на пераменцы. Штраф, праўда, невялікі, але дзяўчынка да таго напалохалася, што доўга не магла гаварыць ні пабеларуску, ні папольску... А бяз роднае мовы дзіця, што птушачка ў клетцы. Усялякую культурную працу забараняюць. І так стогне не адна наша вёска, а ўся сялянская Беларусь! **Жыхар.**

### Ізноў Муха!

Карэспандэнт „Słowa“ апісывае масавыя вобыскі ў вёсках Рачканы і Пашкаўцы, Ляхавіцкае гміны, з прычыны падазрэньня, што жыхары гэтых вёсак дапамагаюць знамянітаму атаману Мусе. А як раз у часе вобыскаў сам Муха з сваім „штабам“ засядаў у адлежнасьці паўтары вярсты ад месца вобыскаў. Пасьля да вечара затрымаўся ў Алінопалі, у трох кілёмэтрах ад Рачкан. Стуль, нікім не зачэплены, пайшоў свабодна далей.

„Słowo“ гэтак апісывае бытнасьць Мухі ў Алінопалі:

„У часе бытнасьці сваей у Алінопалі Муха быццам-то казаў арандатару, што йшчэ раз будзе у Грушаўцы, і што мае быць забіты ўпраўляючы Казакевіч, які ў часе аднаго нападу па Грушаўку страляў у Муху. Адначасна абвясьціў, што яму нехватае яшчэ 100 каней, і што перад вясной яшчэ ня раз прыйдзе па каней. Народ чакае нейкіх разрухаў, земляўласьнікі прост перапужаны, няпэўныя ў заўтрашнім дню, бяз скутэчнае апекі“.

## Наша пошта.

**Н. Жальбе.** Карэспандэнцыю атрымалі. Дзякуем. Вершы прышлеце—пабачым, можа на што і прыдадуцца. Таксама і запісаныя праз Вас песьні. У асабістай Вашай справе пажадана было-б, каб Вы прыехалі ў Вільню. Нічога запэўніць ня можам, але што-небудзь прыдумалі-б.

# Катаваньне арыштаваных.

### Інтэрпэляцыя

паслоў Беларускага Клюбу да Міністра Справядлівасьці і Міністра Унутраных Спраў у справе бясправўных арыштаў у Дзісьненскім павеце і зьдзекаў паліцыі над арыштаванымі.

Пасьля правядзеньня выбараў у Сойм і Сэнат мясцовыя ўлады ў Дзісенскім пав. Віленскай зямлі распачалі ў шырокім маштабе прасьледаваньне беларускага насяленьня і найлепшых яго сыноў за галасаваньне на сьпісак № 16, кандыдатаў нацыянальных меншасьцяў. З гэтай мэтай мяйсцовай паліцыяй і адміністрацыяй распачаты былі масавыя арышты беларусаў пад закідам розных палітычных і крымінальных праступленьняў. Ня маючы ніякіх рэчовых доказаў для ўдаваднеьня гэтых нібыто праступленьняў, палітычная паліцыя (5 f.) прыняла сыстэму біцьця, катаваньня і зьдзекаў над арыштаванымі, змушаючы іх, гэткім чынам, прызнацца да выдуманай віны. Як довад вышэйшага цьверджаньня, ніжэй прыводзім вынятку з пісьма, пісанага З. Міхасевічам, адным з тых, на якіх практыкаваліся катаваньні, мукі і гвалты:

„Каб пазбавіцца сьведкі процiў правакацыі, распачалі процiў мяне справу. Арыштавалі мяне, а таксама арыштавалі няпісьменных: матку, швагра, дзядзьку і 10-цігадовага брата, абвінавачваючы ў дзяржаўнай здрадзе асобаў ня маючых ніякага паняцьця аб палітыцы. Дапрашваючы сярэднявекавым спосабам швагра Антося Парадшо і мяне, прымушалі яго падцьвердзіць усе абвінавачаньні, якія былі сфабрыкаваны процiў мяне, а мяне змусілі падпісаць пратакол, ужо напісаны раней. Мучылі гэткім спосабам: ушчэмлівалі рукі ў дзьверы, а ногі вязалі і білі па кумпякох, зьнімалі боты, білі і палілі пяты, паміж пальцаў укладалі шасьцікантовыя алаўкі і сьціскалі рукі, запальвалі паперу і клалі пад пахі, білі ў зубы, пад ложачку і галавой аб сьцяну, вымалі палавыя органы, адцягвалі і білі лінейкай, пасьля чаго катаваны траціў прытомнасьць. Так было са мною; калі я страціў прытомнасьць, дык мяне аблівалі вадою і ў напалову сьвядомым стане, водзячы маею рукою падпісывалі пратакол. Рабілі гэтае агенты: Беляцкі, Улінскі і Гофрен. Біцьцём у зубы і галавой аб сьцяну займаўся камэндант Дзісьненскай Павятовай паліцыі Ліхадзееўскі. Пасьля такіх мучэньняў трымалі колькі дзён пад арыштам, ня пушчаючы да доктара, ня прымаючы ніякіх скаргаў. Калі раны і знакі ад катаваньняў загаіліся, швагра пусьцілі да дому, прыказваючы, каб нідзе ня лазіў са скаргамі, а мяне пратрымалі колькі дзён пад арыштам, пасьля пераслалі да сьледаваціеля, дзе мяне зволньнілі. Агенты, незадаволеныя з пастановы сьледавацеля, прыкрываючыся сфабрыкаваным загадам пракурора, арыштавалі мяне другі раз і, помсьцячыся, зьбілі мяне ў арышце, не пасылаючы нікуды. Калі-ж зноў, з прычыны адсутнасьці віны, я быў зволньнены, дык раззлаваныя агенты 5 f. напусьцілі на мяне паўвар'ята цесьця Андрэя Левікава і пры помачы даносаў, сфабрыкаваных праз тых-жа Манкевіча і Улінскага, каб пазбавіцца шкоднага сьведкі іх праступленьняў—подкупу ўрадоўцаў з Старостава і Дэлегатуры Ўраду, усялякімі спосабамі стараліся высяліць мяне ў Расаю“.

Дзеля вышэйшага ніжэйпадпісаныя пытаюцца П.П. Міністраў:

1) Ці ведама ім аб вышэйшых годных кары чынах?

2) Ці маюць замер правясьці сьціслае сьледства, каб выясьніць лік асобаў, няпраўна арыштаваных у Дзісьненскім павеце і лік асобаў, над якімі дапушчаны праступныя мучэньні, а такжа самых спосабаў мучэньня і катаваньня.

3) Ці маюць замер пацягнуць да судовай адказнасьці вінаватых у праступленьнях?

Варшава, 18 сакавіка 1924 г.

# Новыя кнігі.

Выйшлі з друку і прадаюцца ў „Беларускай Кнігарні“ (Завальная, 7) гэткія кнігі:

1) Ф. Аляхновіч, **Пан Міністар**, пьеса ў 3 актах, 53 стр. цана 1.000.000 м.п.

2) Янка Быліна, **На прызьбе**, вершы, 56 стр. цана 1.000.000 м. п.

3) М. Лермантаў, **Мцыры**, поэма пер. Краўцова Макара, 41 стр., цана 750.000 м. п.

4) К. Сваяк, **Мая ліра**, вершы, 112 стр., цана 2.500.000 м. п.

5) С. Макманус, **Ірляндзкія народныя казкі**, пераклад Добрага Карліка з 33 малюнкамі, 147 стр., цана 4.000.000 м. п.

6) Праф. Ю. Вагнэр, **Апавяданьні аб жывёлах**, 69 стр., цана 1.500.000 м. п.

7) Суліма, **Праф. Зьдзехоўскі аб беларускай душы**, 20 стр., цана 500.000 м. п.

8) Суліма, **Які „самаўрад“ гатуе беларускаму народу Польская Рэспубліка**, 32 с., цана 500.000 м.п.

9) З. Верас, **Батанічны слоўнік**, 75 стр., цана 1.200.000 м. п.

10) Я. Пачопка, **Малочная карова**, як яе выбіраць, карміць і даглядаць, 83 стр., ц. 1.500.000 м.п.

11) Я. Пачопка, **Пчолы і як вадзіць іх у рамовых вульлях**, 190 стр., цана 4.000.000 м. п.

12) Н. Малышаў, **Фізыялёгія і анатомія чалавека, перакл. д-ра Цьвікевіча**, 120 с., ц. 4.000.000 м. п.

13) К. Дуж-Душэўскі і В. Ластоўскі, **Слоўнік гэамэтрычных і трыганамэтрычных тэрмінаў і сказаў**, 127 стр., цана 3.600.000 м. п.

14) **Зборнік „Заходняя Беларусь“**, 155 стр., цана 2.500.000 м. п.

15) **Apokryf i inne nowele**, **tłomaczone z białoruskiego przez F. A.**, 20 стр., цана 600.000 м. п.

16) А. Łuckiewicz, **Prawda o celi Konrada**, 12 стр., цана 500.000 м. п.



Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**

Друкарня **Левін і Сын.** Вільня, Нямецкая 22.